# ЗВЯЗДА

10 ЧЭРВЕНЯ 1992 г.
серада, № 115 (21893)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1 рубель


**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 4.38, 21.39, 17.01;
Віцебск — 4.20, 21.37, 17.17;
Магілёў — 4.28, 21.28, 17.00;
Гомель — 4.33, 21.14, 16.44;
Гродна — 4.54, 21.53, 16.59;
Брэст — 5.05, 21.44, 16.39.

**МЕСЯЦ:**
Першая квадра 8 чэрвеня.

**ІМЯНІНЫ:**
Мікіты, Ігната, Яўціхія; Багуміла, Малгажаты

# РОЗГАЛАС

## ЯК ДОБРА БЫЦЬ ІМЯНІННІКАМ

**ПІНСК. Цікавы пункт з'явіўся ў калектыўным дагаворы міжгаспадарчага аб'яднання па вытворчасці свініны «Паўднёвае»: лічыць дзень нараджэння аплачваемым нерабочым днём. Мала таго, у свой дзень анёла работнік можа заказаць у фірменным магазіне мясныя далікатэсы.**

**Адміністрацыя аб'яднання не шкадуе сродкаў на сацыяльную абарону членаў калектыву: толькі на матэрыяльную дапамогу сёлета зрасходавана 100 тысяч рублёў, 160 тысяч пералічана бальніцы за абслугоўванне рабочых. Устаноўлена штомесячная кампенсацыя ў суме 300 рублёў за набываемыя тут жа мясныя прадукты. Кожнаму жадаючаму выдзелена па паўгектара зямлі для прысядзібнага ўчастка.**

## АДПАЧЫВАЮЦЬ НЕ ПА СВАЁЙ ВОЛІ...

МІНСК. **(Л. Аляксандраў).** Каля 2 тысяч чалавек — усе занятыя на вытворчасці радыёвымяральнай апаратуры ў аб'яднанні «БелВАР» — вымушаны пайсці ў трохмесячныя водпускі. Прычына звычайная на сённяшні дзень: няма збыту прадукцыі з-за высокіх цэн на яе. А па нашых звестках, у цэны на гэтую прадукцыю прадпрыемства закладзены ледзь ці не максімальныя паказчыкі рэнтабельнасці (каля 27 працэнтаў). У выніку, напрыклад, вальтметры і асцылографы «БелВАРа» каштуюць 60—100 тысяч рублёў.

Вымушаныя пайсці ў водпускі рабочыя за чэрвень атрымаюць сярэднямесячную зарплату. За ліпень і жнівень ім будзе выплачана мінімальная заработная плата.

## ШТО ПАЧЫМ?

**Цэны на некаторыя харчовыя тавары на 9 чэрвеня 1992 г. у Мінску**

| Назва тавару | Дзяржгандаль | Рынак |
|---|---|---|
| Памідоры | 69—72 | 100 |
| Яблыкі | — | 70—90 |
| Чарэшня | — | 140 |
| Курага | 96 | 110 |
| Чарнасліў | 42 | 60 |
| Бульба | 3.80 | 4—5 |
| Агуркі | 25 | 40 |
| Масла | 75 | 150—180 |
| Тварог | 12 | 60 |
| Яйкі | 18 | 15 |
| Свініна | 53 | 110 |
| Бараніна | — | 140 |

## ПРЫТУЛАК ЗНОЙДУЦЬ НА ВУЛІЦЫ

**ТАЛАЧЫН (Т. Махтадуй). Сёлетнім летам не больш як 100 школьнікаў раёна змогуць адпачыць у міжгаспадарчым аздараўленчым лагеры, бо гэта вельмі дорага для бацькоў. Кошт адной пуцёўкі — 3.150 рублёў. Вядома, не кожная сям'я можа дазволіць сабе такія расходы. А прафсаюзныя арганізацыі толькі часткова здольныя кампенсаваць гэту суму. Не могуць прыйсці на дапамогу бацькам, як было раней, прадпрыемствы, дзе яны працуюць, бо апынуліся ў цяжкім фінансавым становішчы. Вось і вымушаны школьнікі бавіць свой вольны час на вуліцы. Аздараўленчы ж лагер амаль пустуе. Сюды заехала на адпачынак толькі 50 школьнікаў. У мінулыя гады за сезон у ім папраўлялі здароўе і набіраліся сіл звыш 500 дзяцей.**

## З 1 ЛІПЕНЯ — ПАРАДАК У ФІНАНСАХ?

**Учора адбылася прэс-канферэнцыя старшыні Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Станіслава Багданкевіча. Гаворка на ёй ішла аб праблеме плацежнага крызісу ў эканоміцы рэспублікі. Сапраўды, інакш чым крызісным і не назавеш сітуацыю, пры якой вытворца адпраўляе сваю прадукцыю спажыўцу, той з удзячнасцю прымае яе і... не плаціць грошай. Такіх запазычанасцей унутры рэспублікі назбіралася на 47 мільярдаў рублёў, 34 мільярды Беларусь завінавацілася Расіі, 11 мільярдаў— Украіне. Праўда, амаль на 15 мільярдаў рублёў больш краіны Садружнасці завінаваціліся нам, чым мы ім. Грошай вытворцы не атрымліваюць і жывуць на банкаўскія крэдыты.**

**Выйсце з гэтага становішча бачыцца ва ўзаемным заліку, які плануецца правесці паміж нацыянальнымі банкамі рэспублік з 1 ліпеня. Пагадненне аб ім ужо ёсць з Украінай, Узбекістанам, Арменіяй, а з астатнімі рэспублікамі — прынцыповая дамоўленасць. Такая мера ў сукупнасці з некаторымі іншымі дазволіць адчувальна аздаравіць фінансы і эканоміку ў цэлым.**

**Падрабязней аб прэс-канферэнцыі С. Багданкевіча чытайце ў наступным нумары «Звязды».**

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

## ЛЕГЕНДЫ НЕ ПАМІРАЮЦЬ

Як вядома, легенды не паміраюць. Яны жывуць з намі і натхняюць на новыя адкрыцці і пошукі. Такой легендай у беларускім рок-н-роле стаў гурт «Бонда». Ужо некалькі гадоў гэтая зорка не ззяе на музычным небасхіле Беларусі, але яе па-ранейшаму памятаюць. Менавіта таму музыкі, якія раней ігралі ў «Бондзе», вырашылі 18 чэрвеня зноў сабрацца разам. Сёння яны працуюць у розных калектывах — «Уліс», «Крама», якія і сустрэнуцца на сцэне Альтэрнатыўнага тэатра (В. Харужай, 131-а) у 19 гадзін. Паказаўшы спачатку сваю новую работу, музыкі выканаюць песні легендарнай «Бонды». Канцэрт адбудзецца дзякуючы мецэнацкай дапамозе канцэртнага таварыства «Аншлаг», якое стала спонсарам гэтага прадпрыемства.

**Зміцер ЛУКАШУК.**

## ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

### ДАЖЫЛІСЯ...

**У Эстоніі забаронены экспарт медзі ў любым выглядзе. Сітуацыя сапраўды катастрафічная, бо з дзвярэй Акадэміі навук рэспублікі выкруцілі старажытныя медныя ручкі, а з маторных караблёў аквалангісты здымаюць медныя грабныя вінты.**

### СЕЗАМ, АДЧЫНІСЯ!

109 зліткаў жоўтага металу вагой у 100 кілаграмаў кожны былі знойдзены на тэрыторыі саўгаса «Янгіюль» Ташкенцкай вобласці. На кожным злітку прастаўлена вышэйшая проба—999. Праваахоўныя органы Узбекістана пачалі расследаванне з мэтай высвятлення, адкуль гэты скарб мог трапіць на палі саўгаса.

### ПАЛЁГКА МАСКОЎСКІМ ВЕТЭРАНАМ

**Распараджэннем прэм'ера маскоўскага ўрада Юрыя Лужкова гарадскому Савету ветэранаў вайны і працы выдзелена 335 тысяч рублёў на бягучае ўтрыманне.**

## ЯК ТРАНСПАРТУ ЎЕХАЦЬ У РЫНАК?

Для таго, каб людзі мелі магчымасць карыстацца паслугамі транспарту і каб самі транспартныя прадпрыемствы змаглі выжыць у наш цяжкі час, патрэбна дзяржаўная падтрымка галіны. Такі быў лейтматыў прэс-канферэнцыі ў Савеце Міністраў Беларусі, прысвечанай рабоце транспартнага комплексу ва ўмовах пераходу да рынычных адносін. У ёй прынялі ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў рэспублікі Станіслаў Брыль, начальнік упраўлення Беларускай чыгункі Сцяпан Шкапіч, міністр транспарту рэспублікі Уладзімір Бародзіч, начальнік Беларускага ўпраўлення грамадзянскай авіяцыі Рыгор Фёдараў і першы намеснік міністра транспарту, кіраўнік рабочай групы па стварэнню марскога гандлёвага флоту рэспублікі Аляксей Гулецкі.

На прэс-канферэнцыі адзначалася, што цяпер заканчваецца падрыхтоўка новага закона аб транспарце, які створыць прававую базу галіны, дапаможа вызначыць прыярытэты для ўваходжання рэспублікі ў еўрапейскую эканоміку. Сярод асноўных задач — развіццё інфраструктуры галіны, сродкаў сувязі, камунікацый. Да 2005 года прадугледжана пабудаваць сучасную сетку асфальтаваных дарог у вёсцы, прывесці асноўныя аўтастрады ў адпаведнасць з сусветнымі стандартамі. Як запэўніў Станіслаў Брыль, гэта зусім не пражэкцёрскі план — тэхнічныя магчымасці і сыравіна для такой рэканструкцыі ў рэспубліцы ёсць.

З транспартных галін толькі чыгуначнікі Беларусі — адзіныя ў СНД — не карыстаюцца дзяржаўнымі датацыямі. Гэтага ўдаецца дабіцца дзякуючы таму, што павелічэнне расходаў на пасажырскія перавозкі кампенсуецца ростам тарыфаў на перавозку грузаў па тэрыторыі рэспублікі. Для падтрымкі астатніх галін урад выдзяляе вялікія сумы. Толькі пасажырскі аўтатранспарт Мінска атрымаў у гэтым годзе звыш 1 мільярда рублёў дапамогі, што дазваляе пры сабекошце адной паездкі пасажыра ў 7 рублёў захоўваць сённяшнюю, хоць і даволі высокую, цану ў 1 рубель.

У той жа час сродкаў на датацыі яўна не хапае. І калі гарадскі транспарт дзякуючы ім яшчэ зводзіць канцы з канцамі, то прыгарадны знаходзіцца сёння ў вельмі складаным становішчы — колькасць маршрутаў, асабліва ў Гродзенскай вобласці, скарачаецца. Відавочна, адзначалася на прэс-канферэнцыі, што без усеабдымнай праграмы дзяржаўнай падтрымкі пасажырскага аўтатранспарту, паслугамі якога карыстаюцца 44 катэгорыі льготнікаў, аўтапаркам не выжыць.

У цяжкім становішчы знаходзіцца і грамадзянская авіяцыя. Паводле слоў Рыгора Фёдарава, толькі для пакрыцця расходаў авіятарам трэба было б у 40 разоў(!) павялічыць тарыфы. Рэальна ж яны павялічаны ў 14 разоў. Заўважым, што авіякампаніі ЗША ў гэтыя ж дні знізілі тарыфы ўдвая, дзякуючы чаму павялічылі загрузку самалётаў і атрымалі дадатковы прыбытак.

Сярод праблем авіятараў — абнаўленне матэрыяльна-тэхнічнай базы і зношанага на 70 працэнтаў самалётнага парка, будаўніцтва ангараў для паветраных суднаў новага пакалення, мадэрнізацыя аўтаматычнай сістэмы продажу і браніравання білетаў. Усё гэта мяркуецца вырашыць з дапамогай вядучых зарубежных фірм, перагаворы з якімі ўжо вядуцца. Трэба будзе яшчэ разабрацца з зарубежнай спадчынай Аэрафлоту, арганізаваць выгадныя для рэспублікі грузавыя авіяперавозкі праз нашу тэрыторыю.

Многа пытанняў задавалася наконт стварэння рэспублікай уласнага марскога гандлёвага і рыбалоўнага флотаў.

(БЕЛТА).

## НА КАГО ПРАЦУЕ «АБАРОНКА»?

**У той час як на многіх прадпрыемствах рабочыя шляхам забастовак патрабуюць ад урада прыбаўку да зарплаты, ва ўтульнай блакітнай зале Палаца прафсаюзаў праходзіў брыфінг для журналістаў рэспубліканскіх выданняў. Яго арганізатары — кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў былога саюзнага міністэрства радыётэхнічнай прамысловасці — вырашылі не мітынгаваць, а звярнуць увагу на свае праблемы больш цывілізаванымі метадамі.**

Шкада гэту галіну. Яшчэ зусім нядаўна яна была гонарам абароннай прамысловасці. За кошт падаткаў, непабудаваных школ і бальніц тут сканцэнтроўвалася ўсё лепшае, чым была багатая краіна, — лепшае абсталяванне, матэрыялы, спецыялісты. Трапляла гэта ўсё ва ўмелыя рукі, дзякуючы якім на свет з'яўляліся ўсё новыя і новыя сістэмы кіравання зброяй. Яны і сёння адны з лепшых у свеце. Лепшыя і так недарэчна непатрэбныя.

— Калі пачыналася канверсія, мы адзначалі абдуманасць і планавасць, — кажа генеральны дырэктар НВА «Інтэграл», віцэ-прэзідэнт Беларускай навукова-прамысловай асацыяцыі П. Гайдэнка. — Праз два гады пасля яе аб'яўлення на прадпрыемствах абарончага комплексу Беларусі ўдзельная вага вытворчасці тавараў народнага спажывання дасягнула 70—80 працэнтаў, у той час як па Саюзу планавалася значна менш. Нашы тавары не ўступалі замежным. Мы з надзеяй глядзелі ў будучыню.

Сапраўды, будучыня ў «абароншчыкаў» была б нядрэннай, каб не падзеі апошніх гадоў. Каб Саюз захаваўся і не ўтварылася СНД, арсеналы працягвалі б расці. І тое, што белавежская сустрэча на гэтым паставіла кропку, вельмі засмучае кіраўнікоў названых прадпрыемстваў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## БІЗНЕС — ГЭТА СУР'ЁЗНА

Цэнтр эканамічнага жыцця краін СНД, відаць, перамясціўся ў Мінск. Не паспелі пакінуць беларускую сталіцу прэзідэнты саюзаў прадпрымальнікаў рэспублік, як дарогі зноў прывялі сюды прадстаўнікоў дзелавога свету. 9 чэрвеня пачаў работу Савет Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрыемцаў краін Садружнасці, Балтыі, Польшчы, Венгрыі і Балгарыі.

Пытанні парадку дня гэтага форуму ў роўнай ступені актуальныя для ўсіх названых дзяржаў. Прадпрыемцам трэба будзе дамовіцца аб каардынацыі дзейнасці ва ўмовах нарастаючых крызісных з'яў у эканоміцы. Разрыў гаспадарчых сувязей паміж прадпрыемствамі, размешчанымі ў розных, цяпер ужо незалежных дзяржавах, як вядома, прывёў да таго, што паміж імі не заключаюцца дагаворы. Больш таго, страчаны механізм адказнасці за аднабаковую адмову ад выканання падпісаных. Таму дзелавым людзям трэба будзе падпісаць пагадненне аб парадку заключэння і выканання гаспадарчых дагавораў, якое будзе насіць рэгіянальны характар і павінна быць ратыфікавана парламентамі дзяржаў, што ўваходзяць у СНД, а таксама іншых дзяржаў, якія арыентуюцца на адзіную эканамічную прастору.

Сёння ні адзін дзяржаўны орган краін СНД не мае звестак аб заканадаўстве, якое дзейнічае ў незалежных дзяржавах, утвораных на тэрыторыі былога Саюза, а тым больш краін Усходняй Еўропы, што раней уваходзілі ў СЭУ. У такім жа становішчы знаходзяцца ўрадавыя і камерцыйныя колы іншых дзяржаў свету, якія выказалі жаданне на доўгатэрміновай аснове развіваць эканамічныя сувязі з рэспублікамі СНД. Таму адна з першарадных задач, якую павінны вырашыць бізнесмены на сваім форуме, — стварэнне Міжнароднага цэнтра прававой інфармацыі.

Прадпрыемцам неабходна таксама разгледзець рад прававых пытанняў, праблемы цэнавай палітыкі, а таксама канкрэтызаваць структуру Міжнароднага кангрэса прамыслоўцаў і прадпрыемцаў, крыніцы яго фінансавання.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ,**
**кар. БЕЛТА.**

## РАДЫЁФАКТ

Вызначаны састаў калегіі Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь, у яе ўвайшлі 13 чалавек. Сёлета на тэрыторыі рэспублікі будуць скарочаны 68 воінскіх фарміраванняў, дзе праходзяць службу звыш пяці тысяч чалавек.

***

**Горад Севастопаль выйшаў з падпарадкавання Рэспублікі Крым. Створана ўпраўленне юстыцыі горада Севастопаля, якое напрамую падпарадкоўваецца Кіеву.**

***

У Нахічэванскай аўтаномнай рэспубліцы створана незалежнае агенцтва навін — «РЭАЛ». Яго мэта аб'ектыўная інфармацыя ў гэтым рэгіёне Азербайджана.

***

**Па розныя бакі барыкады апынуліся дзве рэспубліканскія арганізацыі: Літаратурны фонд Рэспублікі Беларусь і Рэспубліканскае аптова-рознічнае аб'яднанне «Белкніга». «Яблыкам разладу» стала «Кнігарня пісьменніка» ад аб'яднання «Белкніга», што па вуліцы Казлова, 2. На гэтае памяшканне прэтэндуе і Літаратурны фонд, які раней перадаў яго ў субарэнду «Белкнізе». Завершыць спрэчку гаспадарчы суд Мінскай вобласці.**

***

І самалёты больш не лятаюць, і цеплаходы таксама больш не плывуць. Такое можна сказаць зараз пра Пінск. Тут ліквідавана мясцовае авіяпадраздзяленне з-за дарагоўлі эксплуатацыі сельскагаспадарчай і пасажырскай лётнай тэхнікі.

Сёння купіць нейкую запчастку для аўтамашыны ці трактара не так проста, гэта цэлая праблема. У калгасе «Барацьба» Пухавіцкага раёна ў выпадках, калі патрэбна новая дэталь, звяртаюцца да токара Мікалая Уладзіміравіча **Палікарпава.** Гэта сапраўдны майстар сваёй справы. Працуе ён у гаспадарцы ўжо 15 гадоў, і звычайны кавалак жалеза ў яго залатых руках ператвараецца ў патрэбную дэталь.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## КАЛГАСЫ РАНА ХАВАЦЬ...

Не першы раз чую па радыё, бачыў таксама па тэлебачанні пчаляра, які патрабуе, каб яму далі зямлі, і ні многа ні мала — 150 гектараў для ўтрымання сваіх 300 сем'яў пчол і калгасных 80 вулляў. І не знаходзіцца нікога, хто растлумачыў бы гэтаму чалавеку, у што абыходзіцца дзяржаве і людзям, якія жывуць на тых 150 га, гэта, здавалася б, невялікая плошча. Што вырошчваецца на гэтых гектарах, куды дзяваецца...

Зямлю хочуць прыватызаваць. А зямля ж гэта была перададзена на вечнае карыстанне сялянам і з'яўляецца з таго часу іх уласнасцю. Карацей кажучы, поўнымі гаспадарамі на ёй з'яўляюцца калгаснікі і рабочыя саўгасаў. Так запісана ў Статуце калгаса. Ды і калі ўжо гаварыць аб прыватызацыі — яе трэба пачынаць знізу ўверх.

Аднак што ж уяўляюць сабой 150 га зямлі, за якія змагаецца пчаляр, што гэтыя гектары даюць уладальнікам і дзяржаве? У Беларусі па стану на 1.01.1989 года налічвалася 5.677.000 гектараў пасяўных плошчаў. Іх апрацоўвалі 1.614 калгасаў і 893 саўгасы, у якіх працавалі 1.041.000 чалавек. Такім чынам, на кожнага з іх прыпадала ўсяго толькі 5,4 гектара гэтай зямлі. І вось 28 такіх надзелаў і разлічвае атрымаць сабе ў пажыццёвае карыстанне адзін пчаляр. І, канешне, лепшую зямлю, таму што ён мёд дасць! А пачым— гісторыя не гаворыць, і сродкі масавай інфармацыі таксама маўчаць. За чый жа кошт з гэтай мільённай арміі ўладальнікаў выдзеліць зямлю пчаляру? Трэба толькі адмераць 150 гектараў, як механічна адразу ж пазбаўляюцца сваіх надзелаў 28 жывучых і працуючых на гэтых гектарах уладальнікаў. Але гэта толькі працуючых. А ў іх жа ёсць і дзеці, унукі, надзеленыя правам спадчыны. Дзе ім жыць, калі ўсю зямлю стануць без разбору разбазарваць? Ці дасць ім хоць лыжку ад мёду аблізаць гэты пчаляр?

І што рабіць пасля «раскулачвання» калгаснікам і рабочым саўгасаў, калі адбіраць у іх іхнюю ж зямлю, якая служыць ім сродкам вытворчасці і з'яўляецца крыніцай існавання? У батракі? (На кожнага ўладальніка і будзе па 28 батракоў.)

Прыватызацыя, паўтару, пачынаецца не з таго канца. Няхай цяперашні ўладальнік вызначае тую ці іншую форму гаспадарання, няхай праводзіцца ўсё з яго згоды.

Між іншым, пры прыватызацыі зямлі калгасы і саўгасы, вядома, скароцяць вытворчасць і продаж прадукцыі, пагалоўе жывёлы і птушкі, новаствораныя прадпрымальнікі не змогуць запоўніць той разрыў, вакуум у вытворчасці, пастаўцы ў дзяржаўныя фонды і на спажыванне. Усё гэта не хутка стабілізуецца, як бы ні стараліся «стабілізатары».

Тэрмін гэтай катастрофы можа наступіць хутка, яна, бадай, ужо крочыць ўзмоцненымі тэмпамі.

Варта сказаць, што ў большасці сваёй ствараемыя новыя гаспадаркі жывуць за кошт калгасаў і саўгасаў, якія павінны забяспечыць гэтыя гаспадаркі зямлёй, тэхнікай, насеннем, жывёлай і ўсім іншым.

Нельга абысці тут і такую праблему, як дачнае будаўніцтва. Вядома, 5—10—15 сотак — гэта не 150 гектараў, але ж імі распараджаюцца па свайму гледжанню, землеўладальнікі не звязаны пастаўкамі, падаткамі... І ўсё роўна ідуць у магазін, бо што мае дачнік з кавалачка зямлі? Некалькі вёдзер бульбы, агародніны, праз некалькі гадоў — некалькі слоікаў варэння, кампоту... А больш яму і не трэба, таму што на большае патрабуюцца турботныя дні і ночы, тыдні і месяцы, якія траціць, не бачачы белага свету, вясковы мужык...

Пра дачнікаў увогуле асобная размова. Колькі разоў, асабліва вясной, калі ідзе апрацоўка дачных участкаў, і восенню, у перыяд уборкі ўраджаю, даводзілася вяртацца дамоў з магазіна з пустымі рукамі мясцовым жыхарам — без хлеба, без малака, без той жа каўбасы. На прылаўках магазінаў не заставалася і іншых прадуктаў.

Не магу зразумець і такога, калі на вачах у дачнікаў па суседству з дачамі, цяпер ужо ў «іхнім» калгасе або саўгасе, гіне паспелы вырашчаны ўраджай ад няхваткі рабочай сілы. Працягнуць бы руку дапамогі! Дарэчы, яшчэ пытанне: колькі недалічваюцца палі калгасаў гною, які за бутэлькі сівухі трапляе на дачы?!

Вёсцы цяжка. Ёй заўсёды было цяжка, але асабліва — цяпер. І вось бяда: нямногія гэта разумеюць ды і не хочуць разумець.

Аднак вярнуся да асноўнай думкі — наконт прыватызацыі зямлі, пры гэтым яшчэ раз падкрэслю: людзі, калгасы, саўгасы і іншыя прадпрыемствы АПК, ды і перапрацоўчай прамысловасці самі павінны вызначыцца, якія формы гаспадарання ім ствараць. Не трэба нічога навязваць. Хоць я не веру ў тое, што калектыўныя формы гаспадарання зжылі сябе і зусім не прагрэсіўныя. Зрэшты, многія ведаюць пра сельскагаспадарчыя арцелі ў Ізраілі — «кібуцы». І не перашкаджае ім сістэма, як, зрэшты, і яны ёй.

**С. ПРЫМАК,**
**пенсіянер,**
**былы старшыня калгаса.**
Пухавіцкі раён.

**АД РЭДАКЦЫІ: Можна ў нечым паспрачацца з аўтарам, але варта пагадзіцца з ім у асноўным: няхай у гэты рэформенны час выбіраюць самі людзі, сяляне, як ім гаспадарыць. Няхай гэта падкажа, нават прадыктуе само жыццё. Так будзе больш надзейна. Зрэшты, у любым выпадку яно запатрабуе карэнных перамен на вёсцы. Гэта відавочна. Гэтыя перамены неабходныя ўжо ў першую чаргу для таго, каб вызваліць яе ад спрадвечнай залежнасці ад кабінетных, валюнтарысцкіх рашэнняў, з-за чаго, між іншым, ёй і было заўсёды цяжка...**

## НАВОБМАЦАК

**У 1987 годзе цэнтральная сядзіба саўгаса імя Галавачова Буда-Кашалёўскага раёна папоўнілася адразу 50 катэджамі. У іх сталі жыць перасяленцы з Брагіншчыны, якіх з родных мясцін прагнала чарнобыльская катастрофа. Людзі ў цэлым былі задаволеныя тым, што выехалі з небяспечнай зоны, што атрымалі работу, што ім абяцалі ў хуткім часе яшчэ больш «прыгожае» жыццё: лазні, новыя школы, клуб.**

Намячалася ўсё гэта знакамітым другім этапам забудовы чарнобыльскіх аб'ектаў, калі населеныя пункты павінны былі добраўпарадкаваць як след: і асфальт пракласці, і магазіны пабудаваць, і ачагі культуры. Але ўсё гэта адкладвалася з году ў год, і зараз у Сяльцы па-ранейшаму няма лазні, дзеці займаюцца ў драўлянай школе даваенных часоў, а драўляны клуб згарэў летась, нібы тая свечка.

І мясцовыя жыхары, і мясцовыя ўлады ўсе надзеі ўскладалі на сёлетні год, каб, нарэшце, скрануць з месца гэты цяжкі воз. Ды толькі дарэмна: у сувязі з вядомымі падзеямі апошніх часоў у жыцці былога СССР надзеі на лепшае рухнулі.

— І не толькі ў гэтай гаспадарцы, — з сумам канстатуе начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкома Мікалай Сахар. — Такі ж малюнак і ў іншых пунктах, у тым ліку і ў райцэнтры. Асабліва гэта датычыць жылля, якога ў горадзе чакаюць тысячы людзей. Калі летась гэтая праграма была выканана, дык сёлета яна трашчыць па ўсіх швах. І гэта нягледзячы на тое, што мясцовыя будаўнікі з МПМК-92 стараюцца з усіх сіл. Дастаткова сказаць, што з пачатку года яны падагналі работы на некалькіх жылых дамах і заказчык — тое ж упраўленне капітальнага будаўніцтва — ніяк не можа разлічыцца з імі, бо мае вялікую запазычанасць перад будаўнікамі — аж на 4,5 мільёна рублёў. Прычына? Абсалютная большасць арганізацый і ўстаноў, якім узводзяцца кватэры, не маюць грошай і сядзяць на картатэцы.

Дык за кошт чаго будзе МПМК? Бярэ крэдыты ў банку. Але зараз гэтая «масленіца» скончылася: будаўнікі не хочуць і не могуць зацягваць на ўласнай шыі эканамічную пятлю і будуць працягваць работы толькі на тых аб'ектах, гаспадары якіх будуць ім плаціць. Астатнія ж будуць на няпэўны час замарожаны, і ўжо відаць, што доўгачаканыя навасёллі многіх людзей надоўга адкладваюцца. Даходзіць нават да абсурду. Важнейшай будоўляй у райцэнтры з'яўляецца водазабор: з пітной вадой тут цэлая праблема. Бо днём яна можа падавацца ў кватэры, размешчаныя не вышэй трэцяга паверха. Дык вось, водазабор той узводзіцца з 1987 года і павінен быць закончаны сёлета. Са студзеня будаўнікі асвоілі тут у цэнах сённяшняга дня 950 тысяч рублёў і засталося выканаць работ зусім мала. Аб'ект узводзіцца па чарнобыльскай праграме, і дзіўна, што зноў-такі яго пабудуюць за кошт сродкаў будаўнікоў, бо ніхто на яго не выдзеліў ні капейкі.

Таму не даводзіцца здзіўляцца, што начальнік МПМК-92 Пётр Андросенка кожны дзень турбуе М. Сахара: давай грошы, разлічвайся, мы сядзім без зарплаты. А таму хоць ты хавайся куды.

— І калі ў мінулыя гады, — успамінае Мікалай Паўлавіч, — заказчык звычайна падганяў будаўнікоў, дык зараз атрымліваецца ўсё наадварот. І тое, што яны будуць працаваць там, дзе ім будуць плаціць, зусім зразумела. Але як быць тым, хто не па сваёй віне сеў на картатэку?

Сапраўды, як? Хіба толькі выкручвацца, займацца нейкімі не ўласцівымі для калектыву работамі, каб зарабіць капейку. І калі раней гэта называлася сацыялістычнай прадпрымальнасцю, дык цяпер — барацьбой за выжыванне.

— А якая ж будаўнічая праграма на гэты год і якая перспектыва? — гэта мае апошняе пытанне М. Сахару.

— Праграма на паперы дакладна акрэсленая. А на справе — зрыў за зрывам. Перспектыва? Туман туманам, наперад ідзём навобмацак. Раз за разам натыкаемся на розныя перашкоды, разбіваем сабе насы, саджаем гузакі. Застаецца толькі чакаць лепшых часоў. Але ці дачакаемся, ці дажывём? — і ён цяжка ўздыхае.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**
Буда-Кашалёўскі раён.

# РОЗГАЛАС

## НА КАГО ПРАЦУЕ «АБАРОНКА»?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вяртацца да рэчаіснасці нялёгка. Ігнараванне рэальнай сітуацыі прывяло да таго, што сёння ў цэлым прадпрыемствы абарончага комплексу маюць больш сотні мільёнаў страт, а на складах ляжаць нікому не патрэбныя сродкі кіравання зброяй ажно на 4,7 мільярда рублёў, з якіх 3,9 мільярда павінна заплаціць Расія. Ці ж можна было такое прадбачыць і прадухіліць? Наш беларускі ваенна-прамысловы комплекс кажа — не. Маўляў, цыкл вытворчасці вырабаў займае каля дзевяці месяцаў, і ў той час адмовіцца ад заключэння дагавораў не было ніякай магчымасці. Зрэшты, ці шукаў хто гэту магчымасць? Можа, патрыятычныя нацыянальныя пачуцці ў нестабільнай сітуацыі падштурхнулі «абароншчыкаў» звярнуцца да ўрада, Вярхоўнага Савета з просьбай як мага хутчэй узяць пад сваю юрысдыкцыю? Нічога падобнага. Дзяржава ў дзяржаве працягвала б існаваць немаведама колькі, каб не падзеі апошняга часу.

Не лепшым чынам выглядае ў гэтай сітуацыі і ўрад, які добра ведаў, у які бок будуць разгортвацца падзеі, і нічога не зрабіў дзеля таго, каб зменшыць ваенныя заказы і павялічыць нацыянальныя, ці ўвогуле, не чакаючы, чым закончацца гульні ў стварэнне новаагароўскага Саюза, аб'явіць абарончыя прадпрыемствы нацыяналізаванымі. Каб усе трыццаць тры прадпрыемствы своечасова запрацавалі на інтарэсы рэспублікі, не давялося б сёння карміць іх з бюджэту ў такой меры (урад ахвяраваў 150 мільёнаў рублёў на пагашэнне пазык па крэдытах, выдзеліў 126 мільёнаў рублёў у якасці бязвыплатнай дапамогі, на паўмільярда рублёў прадаставіў пазыку на льготных умовах).

Магчыма, ціхія фінансавыя ўліванні крыху затушуюць, змажуць праблему, аднак трэба памятаць, што той, хто нарадзіўся лятаць — поўзаць не можа. Ужо сёння кіраўнікі абарончых прадпрыемстваў выказваюць незадаволенасць тым, што даводзіцца звяртацца ў камерцыйныя банкі, дзе пазыку даюць пад вялікі працэнт, што ў цэлым на іх прадпрыемствах нізкая зарплата (мой знаёмы на заводзе «Інтэграл» зарабляе каля 6 тысяч у месяц. — В. Х.) і што няма закона аб канверсіі.

Для таго каб перайсці ад вырабу адной прадукцыі да вырабу другой, вядома, закон не патрэбен. Справа ў іншым. Вельмі ж не хочацца развітвацца з цэнтралізаваным забеспячэннем, неабмежаваным фінансаваннем, з шэрагам іншых ільгот. Прыняцце такога закона на доўгія гады замацавала б іх. Калі ўжо гаварыць пра канверсію (conversio па латыні — змяняю), то тут мы ў пачатку перабудовы. Многія нашы прадпрыемствы самі, без дапамогі дзяржавы шукаюць, як канверсавацца на выраб той ці іншай прадукцыі. Прычым калектывы на іх не менш працавітыя, чым на мінскіх «Інтэграле», «БелВАры» ці «БелАМА». Ёсць яшчэ асаблівасць у прадпрыемстваў ВПК— гэта іх высокі навуковы патэнцыял. Створаны на народныя грошы, ён сёння па сутнасці застаўся без гаспадара і сродкаў для існавання. Гэта хутка заўважылі за мяжой. Усё часцей наведваюцца на абарончыя прадпрыемствы эмісары замежных фірм, прапануючы рознага характару здзелкі. Неўпрыкмет за «зялёныя» наша нацыянальнае багацце можа перайсці ў іх рукі (як гэта ледзь не адбылося на НВА «Цэнтр»), і тады спадзяванні на тое, што калі-небудзь «абаронка» аддасць народу даўгі, увогуле будуць марнымі.

Відаць, патрэбна спецыяльнае рашэнне Вярхоўнага Савета, якое забараніла б продаж кожнага з трыццаці трох прадпрыемстваў абарончага комплексу замежным пакупнікам. Што да падтрымкі навукоўцаў, то зрабіць гэта можна без замаху на бедныя сродкі нашага бюджэту. Урад можа зацвердзіць для іх недзяржаўны заказ на распрацоўку таго ці іншага вырабу і пералік навукаёмістых перспектыўных задач, якія пры іх паспяховым вырашэнні ў пэўны тэрмін будуць безумоўна аплачаны дзяржавай. Першапачатковае фінансаванне можа весціся за кошт сродкаў саміх прадпрыемстваў або ўзятых імі крэдытаў (у тым ліку і ў камерцыйных банках). Трэба мець на ўвазе, што гаворка ідзе толькі аб тых тэмах, што маюць найбольшае значэнне для эканомікі рэспублікі. Магчыма, туды будуць аднесены зброя і космас, а, магчыма — чарнобыльскія праблемы і тавары шырокага ўжытку. У астатнім жа і для навукова - вытворчых аб'яднанняў былой «абаронкі» павінен існаваць рынак.

**Віктар ХУРСІК.**

## АДДАЮЦЬ ПЕРАВАГУ ЖАНАТЫМ

**У дзелавым свеце ЗША ёсць адно няпісанае правіла. Захоўваецца яно даволі строга, а сутнасць яго ў наступным. Калі ты хочаш зрабіць кар'еру і паступіць у працвітаючую кантору ці вядомы сваімі традыцыямі банк, дык, калі ласка, пакажы перш за ўсё не анкету аб надзейнасці і дыплом універсітэта, а... шлюбны кантракт, ды яшчэ з трохгадовым стажам.**

Анкетаванне, праведзенае газетай «Нью-Йорк таймс», паказала, што ніводзін з трыццаці босаў буйных фінансавых, рэкламных і індустрыяльных арганізацый не прыняў на работу нежанатых маладых амерыканцаў. Адзін з дырэктараў банка растлумачыў, што жанатыя працуюць больш стабільна, сур'ёзна, з большай любоўю да сваёй канторы і з пачуццём доўгу перад сваімі прамымі абавязкамі. Газета атрымала і кароткую заяву ад дырэктара менеджэрскага аб'яднання, з якой вынікае, што дзелавая аддача, вынаходлівасць і сумленнасць у рабоце ў жанатых менеджэраў вышэйшая, чым у халастых.

Прыярытэт жанатых пры найме на работу нарадзіўся ў ЗША, але цяпер яно захоўваецца і ў Канадзе, і ў Японіі. У Краіне ўзыходзячага сонца ён аднесены да канцэрнаў з суперсучаснымі тэхналогіямі. У Паўднёвай Карэі жанатым аддаюць перавагу юрыдычныя канторы, суднабудаўнічыя фірмы і гандлёвыя карпарацыі, якія наймаюць камівояжораў.

У Фінляндыі з нядаўняга часу многія фірмы пачалі заахвочваць шлюбы паміж сваімі супрацоўнікамі.

## «ІНТЭРФАКС» ПАВЕДАМЛЯЕ

### УРАД МАЛДОВЫ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ

У аўторак на ранішнім пасяджэнні парламента Малдовы прэзідэнт Мірча Снегур аб'явіў, што ўрад падаў у адстаўку. Паводле слоў Снегура, не падпісалі заяву аб адстаўцы міністр нацыянальнай бяспекі Анатол Плугару, міністр абароны Іон Косташ, міністр унутраных спраў Канстанцін Антач і міністр культуры і культу Іон Унгурану.

### ДЗЕСЯТКІ ЗАБІТЫХ І ПАРАНЕНЫХ У ВЫНІКУ ЖОРСТКІХ АБСТРЭЛАЎ ЦХІНВАЛА

Старшыня Вярхоўнага Савета Паўднёвай Асецііі Тарэз Кулумбегаў у аўторак тэлеграмай паведаміў кіраўнікам парламентаў і ўрадаў краін свету аб крайнім абвастрэнні абстаноўкі і падрыхтоўцы штурму сталіцы аўтаноміі Цхінвала грузінскімі ўзброенымі фарміраваннямі. З раніцы 9 чэрвеня аднавіўся ракетна-артылерыйскі абстрэл горада, які напярэдадні працягваўся практычна ўвесь дзень.

Паводле даных Т. Кулумбегава, за мінулыя суткі пацярпеў 81 чалавек, з іх 20 чалавек забіты.

### У МАСКВЕ ПАЧАЛАСЯ НАРАДА КІРУЮЧАГА САСТАВУ УЗБРОЕНЫХ СІЛ РАСІІ

У Маскве ў аўторак пачалася двухдзённая нарада кіруючага саставу Узброеных Сіл Расійскай Федэрацыі. На ёй абмяркоўваюцца пытанні, звязаныя са структурнай рэарганізацыяй Узброеных Сіл рэспублікі.

Як стала вядома «Інтэрфаксу», 10 чэрвеня ў нарадзе прыме ўдзел Прэзідэнт Барыс Ельцын. Чакаецца, што ён выступіць з прамовай і падпіша ўказы аб замяшчэнні чатырох вакантных пасад у кіраўніцтве Міністэрства абароны, у прыватнасці, будуць назначаны намеснікі міністра абароны і начальнік Генеральнага штаба.

# ЗА КУЛІСАМІ «ІНТЭРКАНАЛА»

**Будучыня не за амерыканскімі «баевікамі», а за ўласным нацыянальным тэлебачаннем**

**Кабельнае тэлебачанне, якое вынаходлівыя камерсанты стварылі амаль ва ўсіх гарадах Беларусі, не вызначаецца ні рэпертуарам, ні мастацкімі якасцямі. Гэта ў большасці сваёй так званыя «відзікі»—«баевікі», фільмы жахаў, эротыка і, дзеля пашырэння аўдыторыі, — мультфільмы для дзяцей.**

**Тым не менш структуры камерцыйнага тэлебачання прэтэндуюць на ролю незалежных тэлекампаній (дарэчы, і сапраўды, яны залежаць толькі ад спраўнасці відэамагнітафона). І робіцца гэта, нягледзячы на «чарнушны» рэпертуар, які поўнасцю дыскрэдытаваў ідэю альтэрнатыўнага тэлебачання. І вось з'явіўся «праменьчык святла ў цёмным царстве». Гэта незалежная тэлекампанія «Інтэрканал», добра вядомая жыхарам Мінска і Мінскай вобласці, якая ў наш нестабільны і неспакойны час рызыкнула стварыць сімбіёз камерцыйнага і народнага тэлебачання і, спадзяёмся, не прайграе. Першы выхад «Інтэрканала» ў эфір — люты 1992 года, перыядычнасць — адзін раз у тыдзень (пятніца), на 8-м канале тэлебачання, мастацкі кіраўнік — Іван Данілавіч БЕЛАВУС. З ім і адбылася наша гутарка.**

**— Што падштурхнула вас да стварэння ўласнай тэлекампаніі?**

— З аднаго боку, наша беларускае тэлебачанне зусім бляклае і ў мастацкіх адносінах, і ў выражэнні грамадскай пазіцыі. З другога, большасць падзей адлюстроўваецца на ім вельмі аднабакова і адыёзна — адпаведна поглядам таго ці іншага супрацоўніка БТ. Акрамя таго, на экраны нашых тэлевізараў хлынуў паток нізкапробнай заходняй прадукцыі (кіна- і відэафільмаў), якая знаходзіць значны попыт, асабліва сярод моладзі. Некалі магутная краіна развалілася, пачаліся падзел на «правых» і «левых», разгул мафіі, распродаж нацыянальных багаццяў і растрата генафонду. У такіх умовах сумленны чалавек павінен ці страляцца, ці рабіць нешта карыснае.

Таму мы і вырашылі з групай аднадумцаў стварыць такі сродак масавай інфармацыі, дзе любы чалавек — журналіст, эканаміст, бізнесмен, настаўнік, пенсіянер — можа выступіць, калі ў яго ёсць што сказаць сваім суайчыннікам, дзе не было б ніякіх палітычных, рэлігійных ці нацыянальных абмежаванняў — мы ўсе жывём на адной зямлі і кожны мае права на лепшае жыццё; дзе можна было б рэалізаваць любую цікавую ідэю. Наша ж галоўная задача — стварыць масавае, народнае, незалежнае і ні ў якім разе не палітычнае тэлебачанне.

**— Іван Данілавіч, што сабой уяўляе канцэпцыя народнага тэлебачання?**

— «Народнае» — гэта не проста прыгожае слова, узятае намі ў рэкламных мэтах. Цікавасць для ўсяго народа, для ўсіх сацыяльных плыняў —вось падмурак нашай канцэпцыі. Дарэчы, гэта не галаслоўнае сцвярджэнне. Дастаткова прывесці некалькі напрамкаў нашай рэпертуарнай палітыкі, і вы самі пераканаецеся ў гэтым. Напрыклад, будзе ў нас шмат рубрык для дзелавых людзей з уласнай тэлебіржай. З іх можна будзе даведацца пра штодзённыя змены цэн, курсаў валют, аб рынку каштоўных папер; плануюцца выступленні эканамістаў і бізнесменаў, размовы аб асобных прадпрыемствах дзяржаўнага і прыватнага сектараў.

Канал наш выходзіць па пятніцах, калі рабочы тыдзень скончыўся, і людзі збіраюцца за горад. Таму мы дапаможам ім даведацца аб надвор'і, стане дарог, раскладзе электрычак і аўтобусаў, аб тым, дзе набыць насенне, калі яго лепш сеяць, дзе можна добра адпачыць у выхадныя дні і г. д.

Зараз няма лекаў — адкрываем рубрыку «Народная медыцына», дзе будуць не шарлатаны, накшталт Кашпіроўскага, а сапраўдныя народныя лекары. Яны раскажуць аб сваіх метадах, урачы-спецыялісты дадуць парады, як палепшыць псіхічны і фізічны стан, правядуць аздараўленчыя сеансы, а мы са свайго боку раскажам, дзе, у якой аптэцы ёсць патрэбныя лекі.

Мэбля цяпер каштуе вельмі дорага. У нас жа — некалькі рубрык пад агульнай назвай «Хатняя гаспадарка». У адной з іх добры сталяр літаральна на вачах тэлегледачоў пакажа ў кадры, як самому зрабіць садовую лавачку, табурэтку, просты стол, які для гэтага патрэбен інструмент. Плануецца нешта накшталт тэлевізійнай майстэрні, адкуль людзі даведаюцца, як скласці печ, адрамантаваць водаправодны кран, паклеіць шпалеры і г. д.

Шмат увагі будзем удзяляць беларускай культуры, а таксама культуры іншых народаў, прадстаўнікі якіх жывуць у нашай рэспубліцы.

Плануем уласную сацыялагічную службу; педагагічны клуб, дзе настаўнікі змогуць абмяняцца сваімі ідэямі і метадыкамі; праграму, дзе спецыялісты растлумачаць, як адрозніць сапраўдную, «фірменную» рэч ад падробкі; перадачы для аматараў жывёлін, для фанатаў музыкі, спорту; клуб міласэрнасці; астралагічны прагноз. Не абыдзецца без інфармацыйных перадач і паведамленняў, рэкламы. Ну, і, канешне, цікавыя фільмы, музычныя і забаўляльныя праграмы для людзей усіх узростаў.

Пры ўсім гэтым на «Інтэрканале» не будуць доўга вяшчаць «безаблічныя галовы» — уся інфармацыя будзе падавацца ў сціслай і даступнай форме. Такім чынам, мы мяркуем зрабіць сапраўды народнае тэлебачанне, якое апіралася б на жыццё і было карыснае людзям.

**— Тэлегледачы карыстаюцца «Інтэрканалам» бясплатна. Ён што, такі багаты?**

— Наадварот, у нас нічога няма. Няма нават уласнай апаратуры, таму з вялікімі цяжкасцямі карыстаемся пакуль што маленькай студыяй радыётэхнічнага інстытута, дзе здымаем свае перадачы. Пры такой нашай беднасці гаварыць аб нейкай канкурэнцыі з дзяржаўным тэлебачаннем было б проста смешна. Так што працуем на адным энтузіязме, хоць спадзяёмся, што дзелавыя колы зразумеюць, якія магчымасці нясе такі канал, і пачнуць нам дапамагаць. Сапраўды, тэлегледачы за «Інтэрканал» грошай не плацяць, але гэта толькі да таго часу, пакуль перадача не адладзіцца тэхнічна і з тэлевежы Калодзішчаў не пойдзе ўстойлівы сігнал. Тады, вядома, пачнём кадзіраваць, бо работа патрабуе вялікіх фінансавых затрат.

**— Іван Данілавіч, «Інтэрканал», відавочна, вырашыў стаць альтэрнатывай Беларускаму тэлебачанню...**

— Мэтазгоднасць такога канала даказана самім жыццём. Уявіце сабе, што ў рэспубліцы выходзіла б толькі адна газета. Якой бы добрай яна ні была, але яна адна. Такое становішча цяпер на Беларусі з тэлебачаннем. Альтэрнатыва павінна быць абавязкова, а ў будучым мы спадзяёмся і на здаровую канкурэнцыю.

А яна, будучыня, не за амерыканскімі «баевікамі» (якія складаюць рэпертуар пераважнай большасці студый кабельнага і камерцыйнага тэлебачання), а за ўласнымі нацыянальнымі праграмамі, якія адлюстроўвалі б інтарэсы Беларусі і давалі ўсім яе жыхарам права на аб'ектыўную інфармацыю.

**Станіслаў СУЛКОЎСКІ.**

## АЎ, ДАЧНІКІ!..

**У Заводскі райаддзел міліцыі звярнулася адміністрацыя аднаго з будаўнічых упраўленняў з заявай. Не, прапалі не рыдлёўкі, не цвікі. Сярод белага дня «сплыла» будаўнічая бытоўка.**

**Быў выпадак — у Маскоўскім раёне прапаў дом. Неўзабаве знік кіёск па вуліцы Сурганава. Цяпер вось — бытоўка. Што далей? Пытанне ведамасным вартаўнікам.**

## ЦВІК ПРАГРАМЫ

**(ЖАРТАЧКІ «АЛЬТЭРНАТЫЎНАГА» ІЛЮЗІЯНІСТА)**

**У час антракта ў спектаклі з эстрады Мінскага дзяржцырка бясследна знік японскі электрасінтэзатар. Відаць, камусьці з публікі не надта спадабаліся фокусы мясцовых ілюзіяністаў. Вось і вырашылі навучыць іх «як трэба».**

**Сяргей РАЧЫЛА.**

## ВОСЬ І ВЕР МІЛІЦЭЙСКАЙ ФОРМЕ

**ДОБРУШ (У. Пернікаў). Было ўжо апоўначы, калі ў дзверы дома дырэктара аднаго з саўгасаў пастукалі.**

**— Міліцыя. Па тэрміновай справе, — сказаў адзін з начных гасцей.**

**Гаспадар пусціў іх у дом, бо сапраўды двое з чацвярых былі ў міліцэйскай форме. І тут жа пашкадаваў: візіцёры выцягнулі з кішэні газавы балончык і запатрабавалі золата, грошай і... наркотыкаў. Але дырэктар не разгубіўся і, падышоўшы да шафы, сігануў праз акно ў начную цемру. Пачаў клікаць людзей. Рабаўнікі, каб не быць затрыманымі, хуценька рэціраваліся. На гэты раз без здабычы.**

**Але каго наступнага чакае сустрэча з імі? І чым яна скончыцца?**

**Бо мы прывыклі давяраць людзям у міліцэйскай форме.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

РАДЫЁ ПЕРАХВАТ

### РАДЫЁ «СВАБОДА»

*** Дзяржаўны сакратар ЗША Джэймс Бейкер і міністр замежных спраў Расіі Андрэй Козыраў вядуць у Вашынгтоне двухбаковыя перамовы. Іх мэта — падрыхтоўка да амерыкана-расійскай сустрэчы на вышэйшым узроўні. Бейкер і Козыраў выказваюць аптымізм адносна дасягнення прагрэсу ў галіне кантролю над ядзернымі ўзбраеннямі. Козыраў, у прыватнасці, зазначыў, што тыя нязначныя разыходжанні, што існуюць пакуль што паміж бакамі, будуць неўзабаве пераадолены. Бейкер жа ў сваю чаргу падкрэсліў, што амерыканскі бок дабіваецца ліквідацыі ўсіх расійскіх ракет СС-18, кожная з якіх аснашчана дзесяццю боегалоўкамі. Расія хоча захаваць іх.**

* Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын перапыніў сваю паездку па Екацярынбургскай вобласці, каб правесці ў Маскве сустрэчу з кіраўніцтвам Узброеных Сіл краіны.

*** Савет Бяспекі ААН аднагалосна прыняў рэзалюцыю па накіраванню міратворчых сіл для ўстанаўлення кантролю над аэрапортам Сараева. Рэзалюцыя прадугледжвае накіраванне тысячы салдат ААН і 60 ваенных назіральнікаў. Паводле слоў прадстаўніка Белага дома Фітцуотэра, прэзідэнт ЗША Буш падтрымлівае гэты план.**

* Працягваецца артылерыйскі абстрэл Сараева. Многія дамы ахоплены полымем пажараў. На вуліцах горада ідуць баі. У Сербіі і Чарнагорыі ўчора ўведзены карткі на бензін. Гэта выклікана санкцыямі ААН.

### «БІ-БІ-СІ»

*** Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Джон Мейджар заявіў, што яго краіна будзе працягваць ядзерныя выпрабаванні, нягледзячы на французскі і расійскі мараторый на гэтыя выпрабаванні. Брытанскія падземныя выпрабаванні ядзерных боегаловак да ракет «Трайдэнт», праводзімыя на захадзе ЗША, будуць працягвацца. Прэм'ер-міністр заявіў аб гэтым пасля перамоў з прэзідэнтам Бушам і міністрам абароны ЗША Чэйні. На мінулым тыдні пераважная большасць членаў палаты прадстаўнікоў амерыканскага кангрэса прагаласавала за ўвядзенне мараторыя на ядзерныя выпрабаванні ЗША тэрмінам на год.**

* Дзяржаўны дэпартамент ЗША лічыць, што за мінулы год краіны Еўропы і былога Саюза ССР дасягнулі прагрэсу ў рэалізацыі мэт Заключнага акта Хельсінкскай нарады. Пра гэта гаворыцца ў штогоднім дакладзе дзяржпэпартамента аб выкананні Хельсінкскіх пагадненняў краінамі — удзельнікамі Нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе. У дакладзе адзначаюцца аграмадныя перамены, якія мелі ў мінулым годзе месца на еўрапейскім кантыненце. Даклад адзначае таксама развал СССР і Югаславіі і ўзнікненне новых дзяржаў у Еўропе. Дзяржавы Прыбалтыкі, Расія, Украіна і Кыргызстан зрабілі вялікія намаганні для ажыццяўлення дакументаў НБСЕ. А вось некаторыя дзяржавы Закаўказзя і Сярэдняй Азіі, указваецца ў дакуменце, зрабілі ў гэтым напрамку вельмі мала. У галіне эканамічных рэформ, сказана ў дакладзе, Расіі ўдалося прыняць шэраг законаў, накіраваных на стварэнне рынкавай эканомікі. Украіна прадставіла Міжнароднаму валютнаму фонду праграму эканамічнай рэформы, аднак іншыя былыя савецкія рэспублікі, за выключэннем Арменіі і Кыргызстана, яшчэ не выпрацавалі падобных праграм.

*** Пяць членаў Вярхоўнага суда Ізраіля павінны вырашыць, ці трэба адмяніць смяротны прыгавор Джону Дземянюку за злачынствы, здзейсненыя ў гады другой сусветнай вайны. Суд ніяк не можа даказаць, ці з'яўляўся Дземянюк ахоўнікам нацысцкага лагера смерці— ён быў вядомы сярод зняволеных пад мянушкай «Іван Грозны». Абвінавачванне лічыць, што Дземянюк можа быць асуджаны нават і тады, калі суд вырашыць, што ён не працаваў на газавай камеры ў Трэблінцы. Паводле слоў пракурора, у яго ёсць доказы, што Дземянюк быў ахоўнікам у іншым лагеры і прымаў удзел у забойствах яўрэяў. Сам Дземянюк сцвярджае, што ён ніколі не быў ахоўнікам і з'яўляецца ахвярай ілжывага апазнання.**

## ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ● РАДЫЁПЕРАХВАТ ●

## ФУТБОЛЬНЫ ЧЭМПІЯНАТ НА ЭКРАНЕ

10 чэрвеня ў Швецыі стартуе чэмпіянат Еўропы па футболу. У 21 гадзіну 30 мінут тэлеканал «Астанкіна» пачне прамую трансляцыю цырымоніі адкрыцця і першага матча першынства кантынента — Швецыя — Францыя, які будзе абслугоўваць брыгада арбітраў з СНД.

Усе 15 гульняў чэмпіянату, фінал якога адбудзецца 26 чэрвеня ў Гётэборгу, убачаць гледачы тэлеканала «Астанкіна» (7 матчаў) і Расійскага тэлебачання (8 матчаў, у тым ліку фінальны). Прамыя трансляцыі будуць пачынацца ў 19 і 22 гадзіны па маскоўскім часе. Толькі два матчы будуць паказаны ў запісе — Францыя — Данія (17 чэрвеня) і Галандыя — Германія (18 чэрвеня). Іх пакажуць пасля прамых трансляцый гульняў Швецыя — Англія (17 чэрвеня) і Шатландыя — СНД (18 чэрвеня), якія пачынаюцца адначасова.

Усе матчы, паказаныя па тэлеканалу «Астанкіна», будуць паўтораны наступнай раніцай па Расійскім тэлебачанні.

**(ІТАР—ТАСС).**

**Кожны дзень мы чуем па радыё зводку здарэнняў на дарогах рэспублікі. На вялікі жаль, пад коламі аўтамабіляў штодзённа гінуць людзі. Трагедыі адбываюцца па віне вадзіцеляў і пешаходаў. Іншы раз мы так спяшаемся, што не глядзім на светлафор. Эканомім секунды, а губляем усё жыццё. Адбываецца тое, што вы бачыце на здымках. Бясконца шкада...**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю

# НОВЫ ПРОФІЛЬ НЯСВІЖСКАЙ ЗДРАЎНІЦЫ

**Наш субяседнік — галоўны ўрач санаторыя «Нясвіж», заслужаны работнік аховы здароўя Рэспублікі Беларусь М. БЯЛЕВІЧ.**

**— Як вядома, Чацвёртае галоўнае ўпраўленне Міністэрства аховы здароўя рэспублікі ліквідавана. Хто стаў куратарам гэтага санаторыя?**

— Цяпер наша здраўніца міжкалгасная, адносіцца яна да Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь. Абслугоўвае ў асноўным работнікаў аграпрамысловага комплексу. Акрамя таго, у перыяд з мая па верасень тут папраўляюць сваё здароўе пацярпеўшыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Нярэдка адпачываюць цэлымі сем'ямі.

**— Цэны на санаторныя пуцёўкі моцна падскочылі. Ці змяніўся ад гэтага паток наведвальнікаў?**

— Што і казаць, цэны дзікія. Зараз кошт пуцёўкі 3.800—4.000 рублёў. І гэта, думаецца, не мяжа. Аднак жадаючых падмацаваць здароўе і добра адпачыць нямала. Дастаткова сказаць, што летась у нас прайшлі курс актыўнага лячэння 2.806 чалавек.

**— Рыначныя адносіны, відаць, адчувальна закранулі і ваш санаторый. Як мяркуеце выжыць у такой сітуацыі?**

— Наш санаторый поўнасцю перайшоў на гасразлік. Датацый няма, і мы самастойна змагаемся за выжыванне. З 1991 года аказваем платныя паслугі за амбулаторнае лячэнне. Кошт яго не высокі — сто рублёў за поўны курс працэдур. У мінулым годзе мы абслужылі 124 чалавекі. Гэта ў асноўным жыхары Нясвіжа і нашага раёна.

**— Мікалай Сцяпанавіч, якое ж канкрэтна лячэнне можна атрымаць у вашай здраўніцы?**

— Самае рознае. У нас можна прыняць ванны: вуглякіслыя, хвойныя, жамчужныя, радонавыя, кіслародныя, ёдзістабромныя. Ёсць у нас і гразелячэбніца. Прымяняем усе віды фізіятэрапіі. Дзейнічае таксама інгаляторый. Шырока выкарыстоўваем масаж: ручны, падводны, вібрамасаж. Два гады функцыяніруе кабінет іголкарэфлексатэрапіі.

**— А цікава, якія навінкі з'явіліся ў апошні час?**

— Зусім нядаўна адкрылі кабінет ірыдадыягностыкі, дзе пацыентаў прымае вопытны ўрач Алена Паўлаўна Лявіцкая. Па зменах на радужнай абалонцы вока яна вызначае хваробы чалавека. Чарга на прыём даволі значная. За параўнаўча кароткі час былі прыняты 73 чалавекі.

Функцыяніруе і кабінет псіхатэрапіі. Для яго набылі новы апарат сумеснай амерыкана-савецкай вытворчасці для вакуумнага масажу. Зараз вядзецца мантаж абсталявання. Маем палату інтэнсіўнай тэрапіі. Шырока выкарыстоўваем кіслародныя кактэйлі з лекавых траў. Адным словам, санаторый аснашчаны ўсёй неабходнай сучаснай лячэбна-дыягнастычнай апаратурай, укамплектаваны кваліфікаванымі кадрамі.

У нас цяпер працуюць 12 урачоў рознага профілю і 33 работнікі сярэдняга медыцынскага персаналу. Адзін урач мае вышэйшую, тры — першую, два — другую катэгорыі, 11 чалавек з'яўляюцца выдатнікамі аховы здароўя. Асабліва хочацца адзначыць стараннасць, высокі прафесіяналізм стаматолага В. Галушкі, урачоў В. Крукоўскай, Л. Васількевіч і іншых.

**— На розных узроўнях даўно вядуцца размовы аб будаўніцтве новага санаторыя...**

— Нарэшце лёд крануўся. Сёлета створана дырэкцыя па будаўніцтву новай здраўніцы ў Нясвіжы на 300 месц. Яна будзе рэспубліканскім цэнтрам па рэабілітацыі насельніцтва Беларусі, якое пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Складзена праектна-каштарысная дакументацыя. Кошт новага будаўніцтва 30 мільёнаў рублёў. Паводле папярэдніх падлікаў, сёлета павінна быць асвоена 500 тысяч. Падрадчыкам з'яўляецца Салігорскі будтрэст № 3.

**— Чуў, што ў Нясвіжы адкрыты крыніцы натуральнага радону. Ці знойдзе ён сваё прымяненне?**

— Сапраўды, ён знойдзены ў пяці месцах, на глыбіні 300—600 метраў. Толькі варта заўважыць: радон гэты раствораны ў мінеральнай вадзе. Пасля пэўнай аперацыі і яе можна будзе выкарыстоўваць з лячэбнымі мэтамі. На маю думку, вельмі добра было б у перспектыве адкрыць малое прадпрыемства па разліву і рэалізацыі хларыдна-натрыевай мінеральнай вады.

**— А цяпер аб нявырашаных пытаннях, праблемах. Скажыце, што вас, як галоўнага ўрача, проста як чалавека, найбольш хвалюе і трывожыць?**

— Вельмі многае. Да гэтага часу гарадскі парк, які мяжуе з санаторыем, вечарам і ноччу не асвятляецца. Адпачываючым, ды і самім гараджанам туды наведвацца небяспечна. За два гады не прыведзены ў належны стан гарадскі і санаторны пляжы. Не вырашана пытанне з платнай стаянкай для аўтатранспарту...

Калі нясвіжская здраўніца змяніла сваю шыльду і профіль дзейнасці, то трэба пра яе і клапаціцца па-новаму, на сучасным узроўні.

**Гутарыў Генадзь КРЭСКІЯН.**

## НУДЫЗМ. ЯК МНОГА Ў ГЭТЫМ СЛОВЕ...

На нябёсах трывала ўсталявалася сонейка, шкалы тэрмометраў з ахвотай скокнулі за дваццаціградусную цеплавую адзнаку, а на пляжах зноў, як і ў мінулым годзе, пачалі адбывацца выпадкі, незразумелыя для выхаванага чалавека. Калі вы яшчэ не здагадаліся, гаворка пойдзе пра нудыстаў, якія з'явіліся ў мінулыя выхадныя не толькі на Камсамольскім возеры ў Мінску і на Мінскім моры, а, напэўна, паўсюдна ў месцах масавага адпачынку на тэрыторыі Беларусі. Іх форма адзення (летні галаўны ўбор, ды ў некаторых прыкрыты нос) выклікала неадназначную рэакцыю ў загараючага насельніцтва — ад непрыкрытага пурытанскага адмаўлення да цікавасці і нават спробы пераймання. Звяртаюся да групы маладых людзей (чатыры хлопцы і пяць дзяўчынак), якія, бачна па ўсім, лічаць сябе сапраўднымі нудыстамі:

— Як даўно вы практыкуеце такі спосаб загару і чаму? Ці не перашкаджае вам рэакцыя пляжнага асяроддзя?

**Рыта, 21 год.** — У чалавечым целе няма нічога саромнага. Наадварот, калі хадзіць адзін перад адным у голым выглядзе, выхоўваюцца нармальныя адносіны як да свайго, так і да чужога цела.

**Віктар, 24 гады.** — Бачыце, колькі дзяцей вакол нас? Няхай глядзяць, калі ім так цікава. Гэта дапаможа ім у будучым не быць ні ханжамі, ні імпатэнтамі.

Спрабуем высветліць аргументы іншага боку.

**Ганна Сяргееўна, 48 гадоў.** — Што гэта за свавольства, куды глядзіць міліцыя?

**Васіль, 16 гадоў.** — Мне ўсё роўна, у якім выглядзе загараць. Аднак пакуль я не палічу, што гэта сапраўды модна, у нудыстаў браць прыклад не буду. Не хачу быць белай варонай.

Абавязкова трэба сказаць пра яшчэ адну тэндэнцыю, якая дайшла да краін былога СССР, у тым ліку і да Беларусі, з «загніваючага» Захаду — пра так званы жаночы «паўнудызм» (калі жанчына загарае без верхняй часткі купальніка). Ужо ў адным толькі Мінску некалькі тысяч яго прыхільніц, прычым многія ходзяць на пляж разам са сваімі дзецьмі.

Не ведаю, якія аўтарскія эмоцыі выказаць на заканчэнне гэтага невялікага матэрыяла. З аднаго боку, чалавек вольны рабіць усё, што жадае, і што ў межах закона. З другога — ёсць нейкія адпаведныя маральныя нормы. А можа сапраўды, лепш прытрымлівацца думкі, што ў чалавечым целе няма нічога саромнага, і чым раней мы пачнём яго пазнаваць, тым лепш? Жыццё пакажа.

**Кар. «Звязды».**

